# РОЗГАЛАС

## ЯКІМ МОЖА БЫЦЬ КАЛЕКТЫЎНЫ ДАГАВОР

БАБРУЙСК. На камбінаце будаўнічых матэрыялаў адбылася канферэнцыя працоўнага калектыву. Заключаны калектыўны дагавор на гэты год паміж адміністрацыяй і прафкомам, які прадстаўляе інтарэсы працоўных.

Як і раней, вялікае месца ў калдагаворы адведзена вырашэнню сацыяльных пытанняў. Тут паспяхова ажыццяўляецца жыллёвая праграма — сёння кватэры атрымліваюць тыя, хто стаў на ўлік у 1984 годзе, па льготнай чарзе — у 1987 годзе. Маладым сем'ям выплачваецца беспрацэнтная пазыка ў памеры 10 тысяч рублёў. Аднаразовая дапамога ў памеры 500 рублёў выдзяляецца маладым рабочым, якія ідуць служыць у армію, а калі яны вяртаюцца ў калектыў, то атрымліваюць 1.000 рублёў.

**Юрый МІКАЛАЕЎ.**

## Пакуль жывуць на свеце прасцякі

На жаль, мы, відаць, памыліліся, паведаміўшы не так даўно аб тым, што ў Мінску стала значна менш легкадумных і даверлівых людзей. Суровае жыццё абвергла нашы радасныя ўяўленні. У адзін дзень міліцыя зарэгістравала 4 выпадкі махлярства (!). Сапраўды, час рукамі развесці! Ну скажыце, калі ласка, хто з валодаючых хоць кропляй цвярозага розуму, стане чапляцца да абсалютна невядомага мужчыны на вуліцы з просьбай дапамагчы ацаніць кошт залатога кулона з брыльянтам?! А вось 46-гадовы непрацуючы Г. зрабіў менавіта так. І невядомы «ацэншчык» яму вельмі дапамог: Г. застаўся без каштоўнай рэчы і, што самае крыўднае, так і не даведаўся, колькі ж яна каштуе! Сваімі рукамі ў сваёй кватэры аддала зусім незнаёмай жанчыне свае збераженні ў суме 10 тысяч рублёў мінчанка З., медсястра адной з гарадскіх паліклінік. Тая ў адказ пабяцала ёй дастаць «па блату» халадзільнік. На жаль, набытку так і не дачакалася. І не магла дачакацца, бо з дапамогай мінскай міліцыі асоба шчодрай на абяцанні грамадзянкі ўстаноўлена. Гэта жыхарка горада Нікалаева С., якая прыбыла ў наш горад з мэтай «аблапошыць» даверлівых беларусаў і, як бачыце, даволі паспяхова пачала ажыццяўляць задуму. Махлярка затрымана і дастаўлена ў ІЧУ.

Абвялі вакол пальца і адказнага работніка Міністэрства культуры рэспублікі. Нейкі П. яшчэ ў верасні мінулага года паабяцаў яму дапамагчы набыць аўтапакрышкі. У абмен на словы атрымаў рэальную і па тых часах значную суму — 1.100 рублёў. Больш за паўгода вадзіў прайдзісвет даверлівага чалавека за нос, пакуль у рэшце рэшт не «пагарэў» за аналагічныя справы ў Савецкім раёне. Толькі тады ацаніў і наш герой — звярнуўся ў міліцыю. Цяпер П. будзе адказваць і за гэтае злачынства.

Адным словам, «пакуль жывуць на свеце... прасцякі», свабодна і лёгка адчуваюць сябе жулікі і прайдзісветы. Можа быць, паважаныя суграмадзяне, нарэшце, паразумнеем?

## АБЛІЗВАЦЦА РАНА

Памятаючы ісціну, гандаль — рухавік прагрэсу, не спяшайцеся радавацца, калі нейкі тавар застаецца ў межах Беларусі. Вось, напрыклад, распарадзіўся Саўмін рэспублікі скараціць у гэтым годзе пастаўкі мяса ў Расійскую Федэрацыю на 9,6 тысячы тон. Апетытная аказалася б вестка, каб гэта мера не была адказам на адмову Расіі паставіць 22 тысячы тон рыбнай мукі для вырабу камбікармоў, якія, у сваю чаргу, неабходны для вытворчасці 9,6 тыс. тон мяса. Памянёнае мяса Саўмін РБ перадаў Міністэрству хлебапрадуктаў для абмену на рыбную муку па бартэру. Не выключана, што мука будзе знойдзена ў той жа Расіі.

**БелаПАН.**

## Будзе наша свята і на іхніх вуліцах

25—27 сакавіка ў Вільні адбудзецца свята беларускай культуры. Ініцыятыва яго правядзення належыць Дэпартаменту па справах нацыянальнасцей пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі.

Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы свята прымаюць таксама Міністэрства культуры і адукацыі, гарадское ўпраўленне культуры і Цэнтр беларускай культуры ў Літве. Свята прысвячаецца Дню незалежнасці Беларусі — угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі. У яго праграме — спектакль «Тутэйшыя» ў пастаноўцы Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, які адбудзецца 25 сакавіка на сцэне Літоўскага акадэмічнага тэатра драмы, адкрыццё выстаўкі твораў беларускіх мастакоў суполкі «Пагоня» Саюза мастакоў Беларусі (26 сакавіка ў памяшканні віленскага Палаца выстаў), канцэрт мужчынскага камернага хору «Унія» (27 сакавіка ў зале Барокка).

Акрамя таго, у Рэспубліканскай публічнай бібліятэцы імя Мажвідаса будзе разгорнута выстава беларускай кнігі. Свята праводзіцца на дзяржаўным узроўні.

**Валянцін СТЭХ, БелаПАН.**

## ПОЕЗД ПАЕХАЎ БЕЗ ПАСАЖЫРА

**МАГІЛЁЎ (А. САНЧУК). Памятаеце, як пасажыр «падмануў» праваднікa: купіў білет на поезд, але ў вагон наўмысна не сеў. Міжволі нагадваецца гэты анекдот у сувязі з учынкам старшыні Магілёўскага гарсавета Сяргея Габрусева.**

Ён адзіны з былых беларускіх народных дэпутатаў СССР публічна заявіў, што паедзе на надзвычайны з'езд парламентарыяў былога Саюза. Але напярэдадні вызначанай даты адкрыцця з'езда Сяргей Арцёмавіч зрабіў процілеглую заяву. На сустрэчы з журналістамі ён сказаў, што ўжо не бачыць неабходнасці прымаць удзел у гэтым з'ездзе.

І дадаў: перамяніць рашэнне дапамаглі сродкі масавай інфармацыі, якія здолелі пераканаць грамадскую думку ў небяспецы намераў ініцыятараў сустрэчы эксдэпутатаў. Паводле слоў Сяргея Габрусева, ён якраз і збіраўся выкрываць на з'ездзе гэту небяспеку.

## А ХТО ВІНАВАТЫ?

**БРЭСТ. Адзін з сумна вядомых рэстаранаў Брэста — рэстаран «Масква» ў цэнтральнай частцы горада. Вечарамі ў яго прасторнай зале знаходзіцца проста небяспечна: п'яныя дэбошы, бойкі, хуліганскія выхадкі.**

**Каб засцерагчы сябе і гасцей, абслуговы персанал звярнуўся ў міліцыю за дадатковай абаронай. Магчыма, міліцэйскія нарады будуць узмоцнены.**

## КУЛЯ—ДУРА, «ГУБА»—НЕ...

МАГІЛЁЎ. Пры спробе ўцячы з гаўптвахты быў цяжка паранены ваеннаслужачы, які потым памёр.

На гаўптвахту А. трапіў за грубае парушэнне правіл нашэння ваеннай формы. Аднак праз некаторы час А. паспрабаваў з «губы» ўцячы. Гэтаму вырашыў перашкодзіць афіцэр, які быў у нарадзе. Спачатку ён зрабіў некалькі папераджальных выстралаў, потым адзін прыцэльны — куля трапіла салдату ў шыю. Праз чатыры гадзіны ў бальніцы ён памёр.

## ХТО ПРАДУХІЛІЦЬ ГІБЕЛЬ ДУХОЎНАГА БАГАЦЦЯ?

**Апынуцца ў абдымках агню можа бадай што самы багаты ў рэспубліцы кніжны фонд Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (не так даўно яна насіла імя Леніна). Гэта небяспека ўзнікла ўжо даўно. Кожны год пагражалі супрацоўнікі раённай пажарнай інспекцыі закрыць кнігасховішча.**

Сёлета праверку правяла гарадская пажарная інспекцыя і прыйшла да вываду: такая вялікая колькасць кніг на драўляных паліцах непазбежна некалі ўспыхне. Таму 90 працэнтаў кнігасховішчаў закрыта ў сувязі з павышанай пажарнай небяспекай, а значыць, немагчымасцю знаходзіцца там людзям.

Зараз выбар літаратуры ў багатай на яе Нацыянальнай бібліятэцы вельмі абмежаваны. Яе шматлікія чытачы могуць карыстацца толькі тымі выданнямі, якія знаходзяцца ў чытальных залах. Заказы не прымаюцца, бо выканаць іх няма магчымасці.

Гэта недарэчнасць (інакш не назавеш) адносна карыстання духоўным скарбам яшчэ раз напамінае: Нацыянальнай бібліятэцы тэрмінова патрэбны новыя памяшканні. Нельга дапусціць, каб народ быў пазбаўлены свайго духоўнага багацця.

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

## КАЛЯНДАР «ЗВЯЗДЫ»

### 18 САКАВІКА

**250 гадоў назад (1742 г.) князем М. Радзівілам была заснавана свержанская фаянсавая мануфактура, якая праіснавала да сярэдзіны 60-х гадоў XVIII стагоддзя.**

Вёска Новы Свержань, за 4 кіламетры ад Стоўбцаў, заўсёды з'яўлялася буйным гандлёвым цэнтрам, бо адсюль пачыналася суднаходства па Нёману, тут была вялікая паромная пераправа. Славілася вёска і фаянсавай вытворчасцю. Буйны магнат Міхаіл Радзівіл адкрыў у 1742 годзе першую на тэрыторыі Беларусі фаянсавую мануфактуру. Выраблялася пераважна сталовы посуд. Мастацкім дасягненнем свержанскай фаянсавай мануфактуры можна лічыць арыгінальную манументальна-дэкаратыўную пластыку — 6 фаянсавых алтароў для капліцы палаца «Эрмітаж» у Альбе — летняй рэзідэнцыі Радзівілаў пад Нясвіжам, а таксама бюсты старажытных філосафаў, зробленыя спецыяльна для ўпрыгажэння інтэр'ера бібліятэкі ў Нясвіжскім замку Радзівілаў. Што датычыцца стылёвага ўвасаблення «прадукцыі», то яно зведвала ўплыў заходнееўрапейскіх мастацкіх стыляў — барока і ракако.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ




### «БІ-БІ-СІ»

● Пад Кобрынам адзін з англійскіх грузавікоў з гуманітарнай дапамогай для жыхароў Кастрамы трапіў у аварыю. Яе прычынай, на думку англічан, стала памылковая каманда члена кастрамскога эскорту. Работнікі Кобрынскага ДАІ спачатку адмовіліся дапамагаць, але потым змякчыліся. Частку падарункаў, якую не ўдалося размясціць, — адзенне і цацкі — падарылі маленькім жыхарам Кобрына.

● **Вучоныя Фларыдскага універсітэта некалькі месяцаў пры дапамозе камп'ютэра даследавалі адно з вядомых біблейскіх цудаў. Чаму воды Чырвонага мора шмат соцень гадоў назад расступіліся і прапусцілі ізраільцян, якія такім чынам выратаваліся ад войск фараона. На думку вучоных, здарылася гэта дзякуючы вялікай буры, вецер якой разагнаў хвалі. Даследаванні на камп'ютэры паказалі верагоднасць падобнага на гэтым участку Суэцкага праліва.**

● СНД запэўніла Кітай у тым, што яе войскі, якія налічваюць каля 60 тысяч чалавек, будуць адведзены ад кітайскай граніцы.

● **Улады Расіі і Казахстана абвяргаюць сцвярджэнні аб тым, што быццам бы яны паставілі Ірану дзве ядзерныя боегалоўкі і некалькі ракет сярэдняга радыуса дзеяння. Прадстаўнікі Расіі і Казахстана запэўнілі, што гэта зброя знаходзіцца пад кантролем і ніколі не будзе прададзена іншым дзяржавам.**

● Праваахоўніца Алена Бонар у Парыжы на прэс-канферэнцыі, наладжанай армянскай партыяй «Дашнак», заявіла, што канфлікт у Карабаху — з той жа катэгорыі, што і югаслаўскі. Яна нагадала фразу А. Сахарава: «Карабах для Азербайджана справа прэстыжу, для Арменіі — справа жыцця». Толькі пасля вырашэння гэтай праблемы стане зразумелым, па якім шляху пойдуць краіны СНД — дэмакратычным ці сацыял-нацыяналістычным. А зараз расійскае кіраўніцтва аслаблена ўнутранымі спрэчкамі, каб паўплываць на гэту праблему.

● **Захоп Зугдзідзі прыхільнікамі Гамсахурдыя — першы крызіс, з якім сутыкнуўся Шэварднадзе на пасадзе старшыні Дзяржсавета. Яго член Н. Натадзе прызнаўся карэспандэнту Бі-бі-сі, што ваенныя пераконвалі Шэварднадзе вырашыць канфлікт сілай зброі, але ён адмовіўся, аддаючы перавагу мірнаму шляху.**

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

● 17 сакавіка ў Маскве быў распаўсюджаны заклік да грамадзян Расіі і народаў СНД. У ім гаворыцца, што фашызм зноў пагражае свету. Гэты неафашызм мае цесныя сувязі з камуністычным падполлем, органамі МУС і бяспекі, арміі і прафсаюзаў. Для фашызму настаў залаты час. Менавіта ў падобных крызісных умовах да ўлады прыйшоў некалі Гітлер. Таму народы заклікаюцца да стварэння антыфашысцкага фронта.

● **Румынія заклікала Расію і Украіну дапамагчы ў вырашэнні канфлікту ў Прыднястроўі. Прэзідэнт Іліеску выказаў заклапочанасць тым, што ўзброеныя казакі прыбываюць у Прыднястроўе для падтрымкі сепаратыстаў.**

● Генеральны сакратар НАТО заявіў у Вільнюсе, што НАТО падтрымлівае хутчэйшы вывад савецкіх войск з Прыбалтыкі.

● **На Украіне аб'яўлена, што цяпер плата за кватэру, ваду, газ і тэлефон і іншыя паслугі будзе прымацца толькі купонамі. Гэта выклікана падзеннем вартасці купонаў напярэдадні ўвядзення ўласнай валюты.**

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

● Э. Хонекер заявіў, што ён гатоў вярнуцца ў Германію пры ўмове, што яго не аддадуць пад суд. Ён можа выказаць сваю думку па ўсіх пунктах абвінавачвання, але ў нейтральным месцы.

● **Федэральны ўрад у Боне выдзеліў 1.100 тысяч марак ахвярам землетрасення ў Турцыі. Грузы з дапамогай дастаўляюць самалёты бундэсвера. У нямецкім пасольстве ў Анкары створаны крызісны штаб.**

● У Грузіі, дзе нядаўна вяліся жорсткія баі, на ваенных складах захоўваецца ядзерная зброя. Яна ахоўваецца, але няма гарантый яе незахопу ў ходзе міжнацыянальных сутыкненняў.

● **Некаторыя газеты Германіі апраўдваюць рашэнне Украіны асабіста ліквідаваць ядзерную зброю. Расія сама спрыяла ўзнікненню падазрэнняў, што яна не ў сілах хутка справіцца з гэтай задачай, прадухіліць спробы захопу такой зброі. Таму можна зразумець Украіну, якая з міжнароднай дапамогай хоча знішчыць тактычную зброю.**

● Былы пракурор ГДР Фогель шмат гадоў быў пасрэднікам у выкупе ФРГ больш як 3,5 тысячы палітычных зняволеных Усходняй Германіі. Зараз гэты «гандляр людзьмі» знаходзіцца ў турме. Яго абвінавачваюць у супрацоўніцтве са «штазі» і прысвойванні значных сродкаў.

● **Б. Ельцын зусім не выпадкова прызначыў сябе міністрам абароны Расіі. Такім чынам ён умацоўвае сваю ўладу. Цікава, што намеснікі міністра пакуль што не назначаны. Таму меркаваць, якая група возьме пад свой уплыў армію, яшчэ рана.**

● У Латвіі пачалі выплачваць кампенсацыю рускім, якія пакідаюць краіну. Пры райсаветах створаны камісіі, якія вызначаюць суму кампенсацыі. Тысячу рублёў плацяць за квадратны метр кватэры. Гэта сума можа быць падвоена, калі жыллё вызваляецца ў першыя тры месяцы пасля выхаду адпаведнай пастановы. Улічваюцца таксама якасць жылля, яго месца размяшчэння. Робіцца ўсё, каб рускамоўныя хутчэй выехалі.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ

## ШТО ВАС ХВАЛЮЕ СЁННЯ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

кішэні. Скажыце, у каго сёння ёсць такія грошы? Ды і дзе ўзяць тыя матэрыялы?

У майго таварыша (ён маладзейшы за мяне) двое дзяцей. У садзік ходзяць яшчэ. Дык ён 800 рублёў за іх кожны месяц плаціць. А я купіў малодшаму ўнуку маечку — 25 рублёў аддаў, старэйшаму паліто набыў за 632 рублі. Абдзіралаўка працоўнага люду, а не лібералізацыя цэн. Так, паднялі зарплату. Але ж рэальна яна, на маю думку, стала значна меншай, чым была раней. Бо на яе менш купіш. Дык дзе ж клопаты аб людзях, аб якіх заяўляюць ва ўрадзе?

**Дацэнт дзяржуніверсітэта Мікалай АКУЛІЧ:** Трывожыць многае. І асабліва духоўная беднасць многіх людзей, у чым непасрэдная віна нашага грамадства. Вы паглядзіце, для многіх нічога святога на зямлі няма. Колькі злачынстваў учыняецца! Ды якіх?! Сярод белага дня ўзламваюць дзверы кватэр, рабуюць нажытае людзьмі цяжкай працай. Дакаціліся да чаго — сын гвалтуе маці, а ўнук — бабулю. Ніякіх тармазоў у свядомасці, ніякага сумлення.

А вазьміце міжнацыянальныя канфлікты, якія шмат дзе ўжо да войнаў прывялі. Чаму раней іх не было, чаму зараз яны разыграліся? Людзі цярплівасць страцілі, за стол мірных перагавораў не хочуць сесці. Ці не адсутнасць тут культуры і наша «камуністычнае выхаванне»?

І яшчэ. Што за адносіны да навукі? Сродкі на яе выдзяляюцца мізэрныя. Аплата працы вучоных меншая, чым кваліфікаваных рабочых. А мы ж гаворым аб навукова-тэхнічным прагрэсе, які павінен быць паскаральнікам развіцця грамадства...

**Пенсіянерка Вера БОНДАР:** Вядома ж, узровень жыцця, цэны. Мы з мужам як дасягнулі пенсіённага ўзросту, дык вырашылі: будзем працаваць яшчэ, бо на адну пенсію — паспрабуй пражыві. Так і было. А потым мяне скарацілі, бо лішнія людзі аказаліся на прадпрыемстве з-за падаражання ўсіх матэрыялаў. Муж яшчэ, праўда, працуе. Але можа здарыцца, што і яго хутка папросяць.

**Навучэнка медвучылішча Вольга САНАТАВА:** Што гэта за жыццё, калі стыпендыя ў нас 400 рублёў, а самы танны абед — восем? У вучылішчы сталовая цесная, дык мы ходзім у кафэ ці гарадскую сталовую, а там яшчэ даражэй. Білет у кіно — 5—6 рублёў, у цырк 20—25. Аб турыстычнай паездцы толькі марыць можна, аб прыгожым і модным адзенні — таксама. Бацькі дапамагаюць, чым могуць, але іхняй зарплаты не хапае з-за шалёных цэн на ўсё.

**Запісаў Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## «Араб» не толькі для арабаў

Днямі на другім паверсе сталовай інтэрната БПА для арабскіх студэнтаў адкрылася кафэ хуткага абслугоўвання з меню «што паслаў Алах».

Арабская кухня ўсяго за некалькі чырвонцаў можа прапанаваць смачныя ўсходнія стравы. Усе прадукты купляюцца на рынку, а хлеб пякуць па спецыяльных арабскіх рэцэптах.

— І нічога не застаецца, — сцвярджае «гаспадар» гэтай установы, іарданец Файуні Гасан, які жыве ў Мінску. — Наогул, у кафэ могуць прыходзіць усе, — працягвае ён, — тым больш, што хутка абслугоўванне значна палепшыцца. Плануем зрабіць тут рэстаран і назваць яго «Араб». А каб весялей было бавіць час, паклапоцімся аб музыцы.

**Абдул ХАМІД. II курс БДУ. Йемен.**

# Чорнае і з рагамі

## ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ

З чым ідуць людзі да знахаркі? У асноўным, вядома, з хваробамі, са стратамі. Падлетак дома не начаваў — адразу ж да Ніны Кір'янавай: дзе ён? Але самая распаўсюджаная просьба сярод яе пацыентаў: дапамажыце, мяне сурочылі.

Наконт гэтага ў яе цэлая тэорыя. Тут яна прафесар. У яе магутны арсенал падручных сродкаў — нездарма ж яе бабка ў Палессі дагэтуль славіцца сваім знахарствам. Тут табе і каменьчыкі, і галінкі, і амулеты, і замовы, і свечкі... «Ратаваць» яна звычайна пачынае з лекцыі па «філасофіі сурокаў».

— Вас сурочылі таму, што ў вас усяліўся страх,—гаворыць яна.— Страх разрывае вашу ауру і адкрывае шлюз для дрэнных думак, што зыходзяць ад нядобрых людзей, якія вас акружаюць. Думка, як вы ведаеце, мае сілу. Таму самы галоўны сродак пазбавіцца ад сурокаў — перастаць баяцца. Паверыць у сябе. Тым самым узмацніць сваю ауру.

Потым яна параіць вам «пачысціць» сябе і свой пакой пры дапамозе запаленай царкоўнай свечкі. Вадзіць ёю трэба па гадзіннікавай стрэлцы. Калі свечка гарыць ярка і роўна—значыць вы «пачысціліся» ўжо, калі чадзіць—працягвайце чысціцца. Яшчэ можна ў думках абвесці сябе кругамі — і тым самым паставіць заслону на шляху злой думкі.

Асабіста ў мяне такога роду парады выклікаюць усмешку. Але калі яна гаворыць, што трэба часцей пры свечках піць чай ці каву, я ёй веру. Таму што ведаю — гэты рытуал прыносіць масу добрых эмоцый. Калі яна гаворыць пра свечкі, я ўспамінаю Андрэя Вазнясенскага: «Любите при свечах. Танцуйте до гудка. Живите при сейчас...» А адна мая сяброўка любіць паўтараць: ці ж можна напісаць «Яўгенія Анегіна» ці «Вайну і мір» пры электрычнасці? Сапраўды, жывы агонь здаўна нёс у сабе свяшчэнны дар творчасці, вылячэння, духоўнасці.

Цяжка з Нінай не згадзіцца, калі яна раіць патаемныя думкі трымаць пры сабе, рыхтавацца сябе да горшага, але ад душы радавацца лепшаму. Душэўную размову весці ў лесе, на прыродзе. Там ваш арганізм, лічыць яна, падсілкоўваецца энергетыкай з космасу. Натуральна, і ўсякія сурокі менш прыліпаюць.

Для людзей, якія пастаянна сумняваюцца, у яе таксама ёсць парада: слухайцеся першай думкі. Яна заўсёды правільная. Яна — як падказка Неба.

Вельмі шмат людзей, якія пакутуюць ад неўрозаў, звяртаюцца да яе. Скардзяцца, што ўсё баліць. Мучыць бяссонніца. Няма сіл жыць. Унутры ўсё смыліць і цісне. У гэтым выпадку яна не стамляецца паўтараць, што ўсё гэта — вынік накопленых у душы адмоўных эмоцый. Найпершы сродак вылячэння — прыхіліцца да асіны. Асіна — чароўнае дрэва — злую сілу ўцягвае ў зямлю. Дарэчы, амаль усе экстрасенсы і чарадзеі вельмі любяць «лячыць» неўрозы асінай. Некаторыя раяць нават класці асінавае палена пад галаву. (І падушкі не трэба).

Для тых, хто не можа заснуць, Ніна рэкамендуе вельмі просты спосаб «адключыцца». Мочкі вуха сціскаеце пальцамі 30 секунд. Адпускаеце на 30 секунд. Так тры разы. Потым— на раз, два, тры, чатыры — удых; на 1—8 — выдых. Паўтарайце, пакуль не заснеце.

Канешне, не варта занадта сур'ёзна ставіцца да парад экстрасенсаў. Адным яны дапамагаюць, другім — не. Суровы дзядзька аднойчы напісаў да нас у рэдакцыю пісьмо. Пачаў дыхаць па метаду нейкага вядомага экстрасенса і развучыўся дыхаць зусім. Ён грозна патрабаваў: адкажыце, што рабіць?

А рабіць нічога не трэба. Трэба жыць спакойна, з гумарам, імкнуцца не шкодзіць свайму арганізму і не распаляць сябе пытаннем: а што там, наперадзе? Тым больш, што і Ніна Кір'янава лічыць, што наперадзе нічога дрэннага. Карцінку нашага жыцця яна бачыць так: стаіць народ у цемры, глядзіць удалечыню. А там сонца толькі-толькі ўзыходзіць, ледзь бачны яго гарачы край. Людзі не разумеюць, світанак гэта ці захад сонца? Але ўсё роўна цягнуць да сонца рукі, каб сагрэцца. Цяпла яшчэ няма. Будзе яно не скора. Ад холаду людзі топчуцца на месцы. Месяць нагамі гразь і гліну. Аднак самыя кемлівыя ўжо лепяць з гэтай гліны цагліны для будучага дома.

Вось так. Жыве сабе ў Падмаскоўі не то чарадзей, не то экстрасенс Ніна Кір'янава. Варожыць. Прадказвае. Пасмейваецца. Газеты на ноч не чытае, да тэлевізара раўнадушная. Няшчаснай сябе не лічыць. Не сумуе. І нам раіць жыць прасцей і лягчэй. Тады і хваробы прыліпаць не будуць.

**Святлана БУЛАШОВА.**

# ЗАМЕЖЖА

## ШЧАСЛІВАГА ПЛАВАННЯ!

Ад Парыжа да Брэста па рэках і каналах Еўропы — такі незвычайны маршрут выбраў для сваёй новай экспедыцыі 28-гадовы французскі падарожнік Франсуа Кадзью. Ад набярэжнай Сены ён накіраваўся на надзіманай лодцы ў падарожжа даўжынёй 2,5 тысячы кіламетраў. Кадзью спадзяецца адолець гэту адлегласць прыкладна за сорак дзён. Асноўныя этапы экспедыцыі — французскія гарады Шалон-Сюр-Марн, Нансі, Мец, германскія — Кобленц, Гановер, Патсдам, затым—Варшава і, нарэшце, канчатковы пункт маршруту — беларускі Брэст. Франсуа Кадзью — не навічок у далёкіх падарожжах на надзіманай лодцы. Ён атрымаў вядомасць пасля шматмесячнай экспедыцыі ўздоўж берагоў Атлантыкі і Міжземнага мора па маршруту Нант-Стамбул, якое ён зрабіў яшчэ ў 1987 годзе.

## НА ЛЫЖАХ ПРАЗ АРКТЫКУ

**ОСЛА. Дзве нарвежскія палярныя экспедыцыі накіраваліся з розных канцоў да Паўночнага полюса. Першая з іх у складзе трох вопытных спартсменаў ставіць сваёй мэтай перасячы Арктыку на лыжах без пабочнай дапамогі і пераадолець каля 2.000 км, спадзеючыся толькі на сябе. Экспедыцыя стартавала ў канцы лютага з мыса Арктычны (архіпелаг Паўночная Зямля) і павінна за 100 дзён, прайшоўшы праз полюс, дасягнуць паўночнага краю канадскага вострава Элсмір (на захад ад Грэнландыі). Да гэтага паходу тройка нарвежцаў сур'ёзна рыхтавалася на працягу двух гадоў, трэніруючыся кожны тыдзень па 20 гадзін.**

**Другая экспедыцыя — чацвёра лыжнікаў — узяла старт на мінулым тыдні з канадскага берага і мае намер дасягнуць Паўночнага полюса да сярэдзіны мая, пераадолеўшы амаль 1.100 км. У дарозе яны будуць выкарыстоўваць сабачыя запрэжкі і разлічваюць на прамежкавую дастаўку прадуктаў. Пасля пакарэння «вяршыні» зямнога шара падарожнікі вернуцца назад, паколькі мэта экспедыцыі — паставіць своеасаблівы рэкорд: дабрацца на лыжах за адзін год да паўднёвага і паўночнага полюсаў. На Антарктыдзе гэта нарвежская лыжная экспедыцыя пабывала ў мінулым годзе.**

## ЦЯЖКІ ТОЛЬКІ ПАЧАТАК

**Першы за дзесяцігоддзі публічны дом з'явіўся ў Сафіі, паведамляе ў апошнім выпуску балгарскі часопіс «Обштество и право». «Установа» размешчана на адной з цэнтральных вуліц сталіцы. Над дзвярамі няма чырвонага ліхтара, а па сціплым надпісу можна падумаць, што гаворка ідзе не больш чым пра кабарэ. Працуе бар. «Пакоі для гасцей» функцыяніруюць пакуль што толькі на адным паверсе. Астатнія памяшканні «ўзмоцнена рыхтуюцца да наступнага вясенне-летняга сезона».**

**Як абслуговы персанал «атэльнай часткі», так і афіцыянткі бара прыняты на работу па конкурсу, сведчыць «Обштество и право». Два галоўныя крытэрыі былі вырашальнымі пры падборы штату. Па-першае, узрост кандыдатак павінен быў набліжацца да 18 гадоў. Па-другое, яны аднолькава добра павінны разбірацца і ў сервіроўцы стала, і ў каханні.**

## НЕ ДАПАМАГЛІ І САМАПАЛЫ

ПЕКІН. Адчайныя перастрэлкі, пагоні, выццё паліцэйскіх сірэн — такога кітайская сталіца не памятае за апошнія 3—4 дзесяцігоддзі. Арышт узброенай банды, што аблюбавала прыватны рэстаранчык непадалёк ад цэнтра Пекіна, адбываўся на вачах шматлікіх сведак.

У мінулую сераду, піша сталічная газета «Бэйцзін жыбао», у Пекінскае ўпраўленне грамадскай бяспекі паступіў сігнал аб тым, што нехта Ван Ляньпінь, якога доўгі час шукалі па абвінавачванню ў шматлікіх злачынствах, бавіць час з сябрамі ў рэстаране па вуліцы Січжымэнь. Аднак арыштаваць яго было няпроста—злачынцы, якіх аказалася восем чалавек, пусцілі ў ход нажы і самапалы. Вялікая колькасць параненых сярод паліцэйскіх сведчыць аб тым, што яны не чакалі такога шалёнага супраціўлення. Частка злачынцаў была арыштавана на месцы, астатнія затрыманы ў суботу, паведамляе газета.

## ПОМНІК КУЛЬТУРЫ І ЧАЛАВЕЦТВА

**НА ЗДЫМКУ:** замак Сан-Сусі ў Патсдаме. Від на Новы Палац. Замак належыць да ліку найбольш значных помнікаў культуры чалавецтва. Гэта адзін з пакуль яшчэ нямногіх аб'ектаў культуры ў новых федэральных землях Германіі, занесеных ЮНЕСКО ў адпаведны пералік. Сан-Сусі быў узведзены ў 1745—1747 гг. прускім архітэктарам фон Кнобельсдорфам.

## ЗЕЛЛЕ З-ЗА МЯЖЫ

**УЛАН-БАТАР. Сур'ёзны бар'ер перад спекулянтамі «вогненнай вадой» з СНД пастаўлены Манголіяй на дзяржаўнай граніцы з былым СССР. Відаць, частыя звесткі пра масавыя атручэнні спіртнымі напіткамі няпэўнай якасці ў нядаўна яшчэ саюзных рэспубліках устрывожылі не толькі жыхароў гэтай краіны.**

**Урад Манголіі на чарговым сваім пасяджэнні прыняў рашэнне ўстанавіць жорсткі кантроль на ўвоз у краіну з-за рубяжа алкагольнага зелля, піша газета «Ардын Эрх». У адпаведнасці з ім мангольскім мытнікам дадзена строгае ўказанне не прапускаць праз граніцу — не толькі паўночную — віна-гарэлачныя вырабы, якія не адпавядаюць агульнапрынятым стандартам. У апошні час у Манголіі адзначаны выпадкі атручэння спіртнымі напіткамі, завезенымі з сумежных дзяржаў.**

## БАЗАР, А НЕ МЫТНЯ

Закон аб бязвізавым пераходзе граніцы Малдовы з Румыніяй, не падмацаваны матэрыяльнай базай, стварыў на мытнях некантралюемую абстаноўку.

Напрыклад, на Джурджулешцкім мытным пункце няма элементарных бытавых умоў, рэжымнай зоны, тэхнічных сродкаў кантролю. У выхадныя дні прыгранічная тэрыторыя ператвараецца ў элементарны базар, дзе можна купіць усё — ад старых шкарпэтак да вострадэфіцытных тавараў.

**Фота А. СІМАНОЎСКАГА.**

## МОГІЛКІ НА РАСПРОДАЖ

**ВАРШАВА. Пры пераходзе да рынку магчымыя ўсялякія здзелкі, нават... гандаль могілкамі. Так, напрыклад, здарылася ў польскім горадзе Лодзь.**

**Мясцовыя камунальныя службы, атрымліваючы з гарадскога бюджэту сродкі, якіх яўна не хапае, цалкам збанкрутавалі. Органы самакіравання Лодзі прынялі рашэнне аб іх ліквідацыі.**

**Аднак на ўвесь рост паўстала праблема, што рабіць з гарадскімі могілкамі, свяшчэнным для ўсіх палякаў месцам. У гэтым годзе ў бюджэце горада на ўтрыманне месц вечнага спакою быў выдзелены ўсяго 1 млрд. злотых (каля 95 тыс. долараў ЗША. — Заўвага кар.), а патрэбна ў тры разы больш. Тады кіраўнікам горада і прыйшла ў галаву думка правесці аўкцыён па распродажу прыватным фірмам і фізічным асобам права распараджацца мясцовымі могілкамі.**

## ПАКАРАННЕ ЗА ПЛЁТКІ

НІКАСІЯ. Паліцэйскія, прыбыўшыя па выкліку ў пасёлак Аўрора на паўднёвым узбярэжжы Кіпра, сталі сведкамі незвычайнага спосабу барацьбы з плёткамі. За аўтамашынай, якая павольна рухалася па вуліцы пасёлка, ішоў на вяроўцы звязаны па руках саліддны дзядзька, які час ад часу гучна крычаў: «Я 22 гады гаварыў няпраўду». Яго энтузіязм падаграваўся двума «змагарамі за праўду», якія ішлі побач і давалі яму зрэдку выспятка.

Пры разборы ў паліцэйскім участку «змагары» заявілі, што доўгае цярпенне жыхароў пасёлка скончылася, і яны вырашылі такім чынам прымусіць замаўчаць аматараў распаўсюджваць плёткі пра чужых жонак.

*По матэрыялах інфармацыйных агенцтваў і друку.*

## НА ДВОР'Е

### 18 сакавіка

Сёння ўдзень па рэспубліцы пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, раніцай слабы туман. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 2—4, Гомелі, Мінску і Гродна — 3—5, Брэсце — 4—6 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак істотных ападкаў не чакаецца. Тэмпература паветра ўначы 3—8 градусаў марозу, удзень — 2—7 цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

